I—1912. Студзень (Дзякабр). 9-ая кніжка.






## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

Падпісная цэна на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

# Атказы рэдакцыі.

**Як пазнаць скольki гадоу гусаку?** Гэта пазнаць ня лёгка, трэба прынамсі практыкі, але усё-ж такі пазнаць можна. У гусака у гарэ крыла, там дзе яно прырастае да тулува, ёсць дзьве перынкі вузенькіе і цьвёрдые і на большай перынцы ёсць такіе зарубінкі-равочкі; што год у гусака прыбывае па адным рэвочку, дык палічыўшы гэтые зарубінкі - равочкі і даведаецеся скольki гадоў гусаку. Другое аб гусях глядзіце у стацьці аб гусях у гэтым нумэры „Сахі“.

**Беларуская мера на збожжэ.** Беларуская мера на збожжэ ня скрозь адзінакавая; у часьці Вітэбскай, Віленскай і Мінскай губэрні мераюць збожжэ на гарцы, секі, пуры, гэтак; пур 4 секі, або 24 гарцы; сек 8 гарнцоў (гарнец 5 кварт). Каля Вільні і ў часці Гродзеншчыны мераюць збожжэ на асьміны, чверткі і гарнцы гэтак; асьміна 18 гарцоў,—4 чверткі, у бочку ідзе 8 асьмін. Апрача гэтай меры у другіх часьцях Беларусі ужываецца ешчэ і другая мера.

**Калі рубаць дрэва на будоулі?** Найкрапчэйшае дрэва будзе калі яго рубаюць у тым часе, як сокі сойдуць у карэньня—гэта значэ ў самай сярэдзіне зімы, у студні месяцы. Дрэва рубанае у іншым часе дае ня крэпкі матэрьял, каторы скора бутвее і гніе. Другі варунак, каб дрэва было крэпкае, гэта браць на будоўлі не маладое дрэва, а старадрэвіну. Усе старасьвецкіе будоўлі стаўляны с старадрэвіны і затое яны гэткіе крэпкіе.

**Ці можна садзіць у нас хмель на прадаж?** Калісь у нашай старонцы разводзілі многа хмелю і дагэтуль ешчэ шмат дзе на старасельлях хмель расьце дзіка, а нават саўсім дзіка расьце у нас хмель над рэчкамі і на заліўных лепшых землях: гэта паказывае, што хмель у нас можна разводзіць на гандэль. Мабыць, нават добры даход можна было-б мець з яго, калі толькі акуратна глядзець за хмелем, бо у піваварні нашаго краю выпісываюць за дзесяткі тысяч рублёў з заграніцы. Трэба ўсё-ж такі для пасадкі хмелю выбіраць мейсцы закрытые ад паўночнаго ветру.

Годъ I—1912. Студзень (Дзякабр). 9-я кніжка.

САХА першы беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.



# Як адзін аднаму памагчы палепшыць гаспадарку.

Надходзяць цяжкіе часы для тых, каторые ешчэ па старасьвецку гаспадарацъ. Цяпер гаспадарка вымагае ня толькі крэпкіх рук, але і добрай галавы. Усё ідзе наперад, нішто не стаіць на мейсцы, гэтак і сельская гаспадарка перэтварылася у нашы часы с чорнай-мужыцкай работы у абшырную навуку. Над сельскай гаспадаркай цяпер працуюць вучоные, прафэсары, вучаць гаспадаркі па унівэрсытэтах і акадэміях. А наш селянін вядзе гаспадарку, як вялі яго дзяды і прадзеды. Праўда, прадзеды вялі гаспадарку проста і былі сыты і адзеты, як гэта убачыце чытачы і у гэтым нумэры „Сахі“ у стацейцы „Цікавае аб сельскай гаспадарцы на Беларусі 300 гадоў таму назад“, але тады земля не была спусткавана. У тые часы нашы прадзеды рубалі лясы, палілі і на лядох сеялі, пакуль радзіла, а перэстала радзіць, зямлю пакідалі і выпалівалі новае лядо. Гэтак гаспадарыць вялікай навукі ня трэба было, а цяпер трэба пакруціць мазгамі, каб можна было пражыць на зямлі, каторая спусткаваная, ды і тэй мала.

Калі паўгледаемся у жыцьцё нашай вёскі, пабачым, што нашы гарапашнікі бьюцца, бьюцца, як рыбіна аб лёд, і ўсё: і гол і галодзен. Нядзіва, што шмат нашых селян пагараваўшы ў доваль, махаюць рукой на ўсю сваю гаспадарку і ўцекаюць адны у Амэрыку, другіе у Сібір, а трэцьціе у гарады на фабрыкі шукаючы лепшай долі

Але трэба ведаць, што не у адных нас гэтак дзеецца. У нашых суседзёу, заграніцай, гэтак сама, не так ешчэ даўно, было. Тям так сама цяжка было жыць землярobу, але яны патрапілі перэмагчы усё благое і цяпер жывуць прыпеваючы. Мусі і у нас яно гэтак будзе: мы пагаруем, папрацуем, але затое як казаў наш беларускі песьняр:

„Унукам будзе панаваньне
Там, дзе сягоньня плачэ дзед“...

У нямеччыне колькідзесят гадоў таму было мені болей такое палажэньне, як і у нас сягоньня. Земля спусткавалася, ды і тую, дзелючы, парэзалі на дробные кавалачкі Дык калі дайшло да таго, што, як у нас цяпер, зямлі у селян стала мала і пашла голь ды беднатa, то людзі там пачалі думаць аб тым, як з малога кавалка зямлі узяць столькі ураджаю, сколькі бралі з вялікаго. А з гэтых думак выходзіло, што найперш трэба пастарацца, каб як найменш пусткавало зямлі. І вось

пачалі кідаць трохпольле, пры каторым што году адна трэціна зямлі пусткуе, і перахадзіць да многапольля. Разумеецца аднаго гэтаго мала было, трэба было паруліцца ешчэ, каб лепей унаважываць зямлю і лепей вырабляць яе; менш сеяць збажыны, а больш канюшыны і больш гадаваць скаціны.

І вось прашло колкідзесят гадоў, як пачалі гэтак рабіць у нямеччыне, і цяпер ужо, часта—густа, спаткаеш гаспадара на паўтара - двох дзесяцінах зямлі, каторы жыве куды лепей за нашаго валочніка. Там гаспадар усе свае сілы, усё сваё уменьне кладзе у тое, каб паправіць свой невялічкі кавалачак зямлі, каб мець з яго як можна большы даход, а у нас кожны селянін стараецца каб абы большы кавалак засеяць, калі ён ёсць, а німа, дык ухапіць адзін аднаму с пад носу арэнду, плацячы больш чым варта.

Думаць аб тым, што калісь усе будуць мець многа зямлі не варта, бо гэтаго ня будзе, але трэба старацца, каб на тым маленькім кавалачку можна было жыць у дастатку. Але як гэта зрабіць? І ці гэта зрабіць можна? На гэта мы скажэм, што гэта зрабіць можна, а як зрабіць зара раскажэм.

Ведама, што калі трэба цяжкую калоду, ці камень падняць, то адзін чэлавек часам і не пакране, але як збярэцца грамада, народу, то яны наднімуць і панясуць. Гэтак і усюды. Што можэ зрабіць адзін багач, тое могуць зрабіць і мець грамадой-хаўрусам бедакі. Могуць мець і навуку, даступную багатым, і машыны і ўсё. Гэту праўду зразумелі селяне заграніцай і пачалі злучацца у хаўрусы, каб агульнымі сіламі працуючы, мець дастатак і людзкае жыцьцё на сваей малой зямельцы. Уся Нямеччына, Швэція, Швайцарыя, Чэская земля густа пакрыты гэткімі хаўрусамі. Есць яны і у нас, ды ешчэ мала, і не даюць такой карысьці, як заграніцай, а гэта дзеля таго, што нашы людзі не саўсім зразумелі вялікую карысць хаўруснай працы.

У 1893 гаду выдан быў для ўсей Рассі асобны закон, каторы пазваляў аткрываць дробные сельска-гасцадарскіе хаўрусы (кружкі) па вёсках і сёлах. У гэтым самым гаду быў абвешчэн і нормальны устаў дробных сельска-гаспадарскіх хаўрусоў. У 1911 гаду гэты нормальны устаў перагледзілі і дапоўнілі.

Павэдле гэтаго нормальнаго уставу, першая мэта кожнаго сельска-гаспадарскаго хаўруса гэта развіцьце і падняцьце сельскай гаспадаркі у тэй ваколіцы, дзе ён закладаецца. Членам хаўруса пазваляецца зьбірацца і выясьняць патрэбы сельскай-гаспадаркі на сабраньнях зьездах; шырыць паміж сельскіх гаспадароў навуку аб гаспадарцы, пры помачы супольных гутарак, газэт і кніжэк, закладаючы бібліотэкі і музэі; устраіваючы паказные хутары, сады, пчэльнікі і др.

Хаўрус мае права купляць для сваіх членоў усе патрэбные для сельскай гаспадаркі рэчы і прадаваць усякіе сельска-гаспадарскіе прадукты. Мае права хаўрус устраіваць і раздаваць

награды за добрае гаспадарэньне, хаўрус карыстае ешчэ і с права прадавацьзамляробные машыны, насеньне і прылады, не плацячы прамысловаго налогу і розных збороў. Наканец мае права прасіць у Міністэрства грашавой і іншай падмогі для падняцьця сельскай гаспадаркі, на устройства выставак, на шырэньне кніжэк і газэт аб сельскай гаспадарцы і таму падобных рэчэй, ды прост прасіць, каб казна выдала сельска-гаспадарскіе машыны і прылады, ці насеньне. Хаўрус мае права рабіць паміж сабой розные хаўрусы, як напр.: для збыту сельска-гаспадарскіх прадуктоў, пазычковые таварыствы, аткрываць уселякіе крамы і т. д.

Як бачым закон аб дробных сельска-гаспадарскіх хаўрусах (кружках), пазваляе селянам злучацца у хаўрусы і грамадой хаўрусам радзіцца аб сваіх патрэбах. Гэта, разумеецца, самае глаўнае, дзеля таго, што селяне лішне доўга маўчалі і адвыклі думаць. Наш, беларускі, селянін да сягоняшняго дня усё аглядаецца, што нехта павінен зрабіць нешта яму, нешта даць... А на сьвецi так ёсць, калі сам аб сабе не падумаеш, то і мець ня будзеш. Дык вось, настаў час, каб наш селянін сам аб сабе пачаў думаць, сам пачаў галавой працаваць над тым, як папрaвіць сваю долю. А дзеля таго, што селяне нашы найбольш без навукі і бяз грошы—значэ слабы галавой і грашамі, дык трэба, каб злучаліся у хаўрусы, каб грамадай ішлі на лепшую долю для сябе, сваіх дзяцей і унукоў.

Устаў, а разам з гэтым і закон, як мы вышэй бачылі, пазваляе сельска-гаспадарскім хаўрусам шырыць кніжкі, газэты, рабіць агульные гутаркі, гэта значэ, што закон пазваляе працаваць хаўрусам над тым, каб селянін мог прыдбаць сабе сельска-гаспадарскую навуку. І запраўды, сельска-гаспадарскі хаўрус (кружок) калі тые людзі што закладаюць яго і запісываюцца у члены, захочуць, можэ замяніць сабой сельска-гаспадарскую школу у каторай кожны селянін можэ знаёміцца с сельска-гаспадарскай навукай і практыкай.

Дык вось, дарагіе чытачы, кудой наш выхад з беднаты і голаду. Другой дарогі німа, як толькі хаўрусная праца і навука.

Заўсёды і ўсюды найгорш жывецца калі чэлавек, на чэлавека воўкам пазірае, а найлепш там, дзе людзі, як брат брату заўсёды гатовы адзін—аднаму памагчы і у прыгодзе стануць. Хаўрусная праца апіраецца на помачы адзін аднаму, дзеля гэтаго гэта пэўны шлях да лепшай будучыны для ўсіх галодных і халодных.

**Лішні.**

# Што мнѣ даў сельска-гаспадарскі Кружок.

Перш чым пачну вылічаць карысьці, якіе я меў с сельска-гаспадарскаго кружка, павінін сказаць, што у маім пераконаньню сельска-гаспадарскі кружок дае такіе карысьці, каторые цяжка аблічыць. Але ўсёж такі многа залежыць ад таго, як працуе і развіваецца кружок: там дзе ён ідзе добра, дзе яго вядуць людзі сьветлые, каторые знаюцца добра на гаспадарцы і сельска-гаспадарскай навуцы, там кружок дае не малы матэрьяльны зыск членям. Але нельга сказаць, што кружок добра развіваецца, калі упраўленьне складаецца з людзей з навукай, а члены мала цікавяцца гэтым кружком і тым, аб чым на сабраньнях гавораць, ды не акуратна зьбіраюцца на сабраньня. Гэткіе кружкі ніколі добра развівацца нямогуць і тады можна сьмела сказаць: якіе члены такі і кружок. У маім пераканаваньню сельска-гаспадарскі кружок заступае, да вядомай меры, пачатковую сельска-гаспадарскую школу. Па сабе самым мяркую гэта.

Калі ешчэ не было у нашай ваколіцы сельска-гаспадарскаго кружка, не даваў я веры, калі чытаў, што заграніцай маюць гэткіе высокіе ураджаі, як 100—120 пудоў азіміны з марга ($^2/_3$ дзесяціны) і думаў я тады, што калі там бываюць гэткіе ураджаі, то мусі там земля вельмі добрая ды высока пастаўлена культура зямлі (што такі праўда—калі гаварыць аб культуры зямлі). Думаў, дзеля гэтаго я, што у нас усёж такі ніколі ня можэ быць гэткіх ураджаеў, бо земля у нас благая, а культура зямлі ешчэ горшая. Але саўсім іншае аказалося, калі мы залажылі сельска-гаспадарскі кружок. Залажыўшы кружок мы зара ураілі выпісаць мерку (5 пудоў) арыгінальнаго пэткускаго жыта, каторае засеялі два гаспадары на паўмеркі на маргу кожны і з гэтай меркі намалацілі 28 мерак, а на другі год ужо усе члены кружка мелі на насеньне гэтаго жыта·

Я, гэтак сама, дастаў на насеньне дзьве меркі і пасеяў, а на другі год намалаціў 36 мерак чыстаго зерна. Гэта паказывае што і наша земля можэ даць такі ураджай, як і заграніцай, а то ешчэ і большы, калі толькі гаспадар будзе старацца добра вырабіць зямлю, добра угнаіць і засеяць добрым зярном. Дык вось якую карысць даў мне кружок, ужо на другі год свайго бытаваньня. Бо ці-ж гэта не карысць? Каб ня быў членам кружка, ня мог-бы скарыстаць з гэтаго жыта, а каб на тым мейсцы пасеяў сваё старое, то не намалаціўбы болей, як 12—15 мерак. А так меў я на 21 мерку большы ураджай; прадаўшы мерку (232 фунты) па 5 р. 50 к. выручыў у першым гаду чыстаго зыску 111 руб. 50 коп. а ў дадатку асталося мне добраго насеньня на пасеў. І каб мне хто тады сказаў: маеш 20 руб. за мерку і ня сей гэтым зярном, а толькі сваім старым, то я

разсьмеяўся-б і сказаў яму, што ён дурны; бо што значыць колькі рублеў пры тым, што я маю добрае зярно каторае дало мне гэтулькі зыску толькі за адзін год?

Але не канец на гэтым, кружок даў мне болей. Напрыклад гэткая страхоўка будынкоў і жывёлы, каторую кружок аблегчае зрабіць для сваіх членоў. Бачу я ў гэтай страхоўцы вялікую карысць, бо маю забеспечэнуую перэд сабой будучыну. На прыпадак нешчасьця—пажару, агонь нішчыць усё, але хто застрахаваны, той ня пойдзе жэбраваць, што бывае часта нават з заможнымі гаспадарамі, але каторые нічым не забеспечэны, ня злучэны у кружок. Толькі кружок можэ абараніць ад пагарэлаго творачы паміж членамі самапомач, хаўрусную еднасць.

Адным словам кружок дае мне маральные і матэрьяльные карысьці, бо кружок лучыць усіх членоў, каторые становяцца больш грамадзянамі, ды зжываюцца с сабой, а з гэтаго вытвараецца еднасць, братня любоў.

Грамадная, гэтак сама, зрабілася розніцы у маей гаспадарцы. Калі даўней земля пасьля жніва лажала адлогам аж да восені, а часам і да вясны, цяпер, ад часу калі залажыўся кружок у нашай воласьці і калі я стаўся членам яго, гэта перэмянілося, бо зара посьля жніва, дзе не падсеяна сэрадэля, земля мелка падорываецца і барануецца, а пасьля другі раз арэцца і пакідаецца заaранай на зіму. На вясну, як толькі земля абсохне, зара усю зімовую пахату барану, а пасьля ужо толькі спрунжыновай бараной разрыхляю, або і сею проста пад спрунжыноўку. З гэткаго вырабу зямлі маю карысць, а карысць гэту маю дзякуючы сельска-гаспадарскаму кружку. Карысць гэта вось якая: заместа 50 мерак бульбы з марга, як даўней, накапаў я 100 мерак з марга, а ешчэ не так рабіў я, як трэба было, бо садзіў пад скібу, а пэўне большы быўбы ураджай, каб садзіў пад значнік і палажыў штучных гнаёў. Двохразовай оркі ужываю у прыпадках калі сэрадэля не удасцца. Усё блізка жыта падсеваю сэрадзэляй, а у восень заорываю, панасьвіўшы на ей кароў, малако ад каторых адважу у малачарню. Вясной пад спрунжыноўку сею авёс, катораго, заместа як дауней, 5 мерак з марга, намалачываў, праз гэтые чатыре гады, ад адкрыцьця кружка, па 15 мерок з марга, што, гэтак сама, сьмеле магу сказаць, што гэты пабольшэны ураджай даў мне кружок, дзеля гэтаго лічу за вялікае шчасьце, што кружок аткрылі мы і што я да яго належу. Кружок кожнаму можэ памагчы у гаспадарцы, калі толькі члены захочуць паступаць паводле рад і паказу, які бывае абгаварываны на сабраньнях. Маю прыклад на сабе, што да даходу са сваей гаспадаркі, проці даўнейшаго маю цяпер у год больш за 600 руб. лішняго даходу, а маю надзею, што пры далейшай працы кружка даход рэты двойчы павялічыцца.

Напісаў я колькі гэтых слоў аб карысьцях, якіе я меў ад кружка з верай, што, каб усе сельскіе гаспадары пазлучаліся у кружкі, тады-б край наш зацьвіў-бы, стаўся-б багацейшым

на мільёны рублёў. Бо у кружках кожны гаспадар навучыўся-б як трэба гаспадарыць, як дабыць сельска - гаспадарскую навуку, без каторай цяпер абыйсціся нельга. У еднасьці і хаўрусе сіла, бо толькі тады калі паміжнамі будзе еднасць мы здолеем выбіцца з бяды. Хаўрусам бедные і слабые могуць рабіць тое і быць тым, што робяць і чым ёсць дужые і багатые.

**В. Банашкевіч.**

# Як ратавацца ад пажару.

Многа бяды і нешчасьця робіць па вёсках пажар. Не адзін багаты гаспадар астаўся у аднэй кашулі, дый ешчэ Богу дзякуе, што з душой выскачыў з агню. А усё гэта робіць наша цемната і недбаласць. Каб людзі самі аб сабе думалі, каб на Бога не ўскладалі таго, што самі павінны зрабіць, то-б яно неяк лепш-бы і жылося. Дармо, што нашы дзяды і бацькі ня ведалі, як ратавацца ад пажару, і толькі ведалі, што агонь баіцца вады. Цяпер ужо да шмат якіх мястэчках можна пабачыць „пажарную стражу“ вольную і гарадзкую, што ў адну мінуту усхопіцца у ночы, запражэ коні прыедзе і пагасіць полымя. Служаць у гэткіх стражах па гарадах і мястэчках служаць і паны і чыноўнікі і мешчане, і усе безплатна. За сваю службу хоць ніхто грошэй не бярэ, але затое маюць пашану ад усіх людзей.

Па вёсках пакуль што у нас не чуваць, каб нашы селяне заводзілі пажарные дружыны. У Польшчы, у Літве, Латышчыне на Украіне і у Расеі даўно ужо ёсць шмат людзей, каторые ахвяраваліся для дабра грамадзкаго па вёсках. Вось яны і узяліся да устройства вясковых дружын. Маладые хлопцы ахвотна ідуць у такіе дружыны, выбяруць с паміж сябе старасту і дзесяцкіх і вучацца, як ваеваць з агнём. Зрабіць гэта можна былобы і у нас. Грошы трэба сабраць з усіх. Машыну цяпер можна купіць рублёў за сто разам с кішкой і з усімі патрэбнымі да яе рэчамі. Калёсы, ці санкі знойдуцца у кожнаго гаспадара і вёдроў у вёсцы не мала; трэба зрабіць зо дзьве бочкі і якіх шэсць крукоў на доўгіх і моцных дручках. Сякера і вяроўка заўсёды ёсць у хаці. Вот вам і гатова пажарная каманда. Вучыць можна ахвотнікоў ці вечэрамі, ці у сьвята.

Кожны разумны і справядлівы чэлавек заўсягды гатоў будзе памагчы у такой справе, бо ратаваць людзей ад бяды кожны павінен. Ён навучыць і як дастаць пазваленьне і як сабраць грошы. Пісар у воласьці так сама знае гэтые парадкі. Трэба толькі склікаць сход, напісаць прыгавар і паслаць да земскаго, ці да станавога, а той ужо прэдставіць да губэрнатара, каторы зацьвердзіць. Часу на усю гэту справу патрэба ня больш месяца—паўтара.

Па вёсках заўсягды знайдзецца салдат, атстаўны, ці запасны, вось іх канешне трэба уцягнуць у пажарную дружыну. Яны могуць быць выбраны на дзесяцкіх. Калі побоч ёсць дзьве—тры вёскі, то трэба змаўляцца усім разам, каб зрабіць адну дружыну, каторая павінна ехаць бараніць суседніе вёскі, гдзе толькі агонь пакажэцца, ці дым вялікі. Трэба добра памятаць, што як грамадаю людзі бяруцца да справы то і беда не страшна.

Я пісаў, як трэба ваеваць з агнём, але ешчэ трэба ведаць, як трэба рабіць, каб не дапусьціць да пажару.

Перш—наперш трэба будавацца ў вёсцы, як можна далей сусед ад суседа. Селяне нашы ставяць свае будынкі у кучы. Тут і хата, тут і хлеў, поплеч гумно, стог сена, або саломы, а тут-жэ блізенька восець і пераплот з жытам. Як загарыцца у хаці, то ўжо ня толькі яна згарыць а згарыць уся прысада да званьня. Каб лягчэй ратаваць трэба канешне каб будынкі рэдка былі будаваны.

Хата ад хаты, ці будынак ад будынку павінен быць ня менш, як на 9 аршыноў адзін ад аднаго. Паміж будынкоў трэба садзіць, ці грушы, ці ябланькі, а як фруктовых дрэў німашака, то садзіце бярозы, ліпы, клён ці што другое лісьцявое. Хвоя і ёлка не павінны быць у суседзтві, бо яны і самі хараша гараць у часе пажару.

Вуліцы рабіце шырокіе. А калі шкада шматка зямлі, бо яе і так ня многа, то рабіце перэд хатамі гародчыкі і там ізноў садзіце дрэвы паміж буракоў, ці бульбы. Тады вуліца, хоць і вузкая, баранілабы суседоў на супроць ад перакіднаго агню, бо хата ад хаты цераз вуліцу была-б сажнёў на 10.

Студні трэба мець у вёсцы не адну, а прынамсі адну на трох гаспадароў. Асьвер павінен быць с прыкаваным вядром да шэста. Падезд да студні павінен быць не з аднаго боку, а прынамсі с трох бакоў, каб бочкі з вадой адтеждждалі свабодна, не чэпляючыся адна за другую.

Стрэху, крытую саломай, трэба з верху пакрыць глінай. Хоць праўда дождж крыху змые гліну, а усё-ж такі гліна прасочыцца у сярэдзіну саломы і стрэха ня будзе гарэць, як серчык. Ешчэ лепш было-б, крыючы саломай, кожны рад, ці пярэвясло мазаць глінай. Такая мазаная стрэха цяжэйшая будзе, і пад яе трэба класьці мацнейшые рэпкі па крокву.

Летам на кожную хату трэба ставіць цэбар з вадой і памялом. А як, барані Божэ, загарыцца у суседоў, пасылай бабу, ці ўнука, ніхай сядзіць на страсе і мокрым памялом іскры бье.

Людзі кажуць, што ўсякі пажар спачатку вядром вады заліць можна. І праўда. Заўсягды агонь пачынаецца з малога: ці газніца разабьецца, ці вугаль зваліцца на падлогу, ці кіне хто цыгарку ў сена. Ну, словам, беда бывае з глупства.— Вот-жэ вада і павінна быць заўсягды пад рукамі. Калі вады саўсім німа, або вымерзае, то трэба бурыць загарэўшуюся будоўлю. Найбольшую бяду сцягае на будынкі падчас пажару

саломеная стрэха, вось яе перш за ўсё трэба збурыць. Тагды агонь сядзе, бо німа за што ўчапіцца, і пажар скончыцца на тэй хаці, каторая перш за ўсё занялася. Трэба цяпер у гэтым мейсцы сказаць, што карасіну (газу) нельга вадой гасіць. Калі загарыцца газа найлепей чым небудзь прыкрыць агонь; пасьцілкай, коўдрай, або засыпаць зямлёй, пяском, гразьзю.

Калі гдзе пачаўся пажар, загарыцца стог сена або саломы, то яго нямажна расцягаць. Трэба толькі ліць ваду, не чэпаючы крукамі, бо салома, ці сена мігам дасць мільёны іскроў і шматкоў, што з ветрам панясуцца на суседніе хаты.

Шмат чаго можна парадзіць, але ня ўсё лёгка споўніць. Тое, што я напісаў, здаецца, не цяжка зрабіць, дый грошы многа ня трэба. Ніхай хоць гэта, што тут стаіць зробяць ва ўсіх вёсках, то пажары ня будуць страшны. Пры добрых парадках больш за адну хату на сяле згарэць не павінна.

Пра студні я ўжо казаў. А вось калі бывае у сяле сажаўка, то канечне трэба, каб яна была выгароджэна і каб да яе быў праезд свабодны, ды каб с канём і с калёсамі можна было абярнуцца, не баючыся вывернуць бочку з вадой.

Трудна мне ўсё спомніць і аб усём адразу напісаць дабаўлю вось ешчэ, што у Пецярбургу ужо многа гадоў, як устроена „пажарная управа“ ці „рада“ для усіх дружын. Адрэс вось які: Пецярбург, Дварцовая набярэжная № 28 у савет Імператарскаго Расейскаго Пажарнаго Обшчэства“. Адтуль можна дарма дастаць устаў пажарнай дружыны і уселякіе правілы, або і кніжкі па 2 — 5 капеек, аб сельскіх пажарах і як бараніцца ад іх.

**Sodalis.**

---

# Цікавае аб спосабе гаспадаркі на Беларусі 300 гадоў таму назад.

У кнізе Александра Гвагніна*) ёсць апісаньне, як гаспадарылі на Беларусі каля 1617 году. І выходзіць, што у спосабе выробкі зямлі мы за трыста гадоў мала што пасунуліся наперад, адно што тады больш было лясоў і часьцей вырубалі і выпалялі лясы, каб на лядох сеяць. Сеялі так сама, як і цяпер: пшаніцу, жыта, авёс, ячмень, грэчку, гарох і боб. Бульбы тады у нас ешчэ не зналі. Ляды прыгатаўлялі да пасеву збожжа так: вырубалі лес, палілі, пасьля уздзёршы пакідалі гэтак на зіму, каб земля перамерзла, а вясной сеялі ярыну. Найцікавейшае мейсцо, дзе апісывае Гвагнін як сеялі тады азімае жыта. Аказываецца жыта засевалі летам разам з ячмянём, 2 часьці ачменю і 1 часць жыта. У восень зьбіралі ячмень, а жыта у форме дробнай, густой травы пакідалі зімаваць і яно на лета вырастало гэтак што, як пішэ Гвагнін „трудна было праехаць

конна“, а конны рыцар у ім хаваўся, і „чуць прымецен быў“ ды пры ўсім гэтым с кожнаго зерна вырастало па 30 каласоў, а нават і больш таго. На сколькі нам вядома цяпер нігдзе на Беларусі ня сеюць азімаго жыта пад прыкрыцьцем ярыны. Варта было-б папрабаваць, мо нашы прадзеды і разумна рабілі?

В—т.

*) *Respublica, sine status Regni Polonie, Lituanie, Prussie, Livonie etc Anno 1617.*

---

# Што трэба рабіць з гноем.

Гной гэта багацьце кожнай гаспадаркі. Дзеля гэтаго трэба яго умець так пераховываць да таго часу пакуль вывезем на поле, каб з яго нічога не убывала, каб усё, што мае у сабе гной, асталося і вывезена было намі на поле, як хорч для збажын.

Вывозім гной на поле дзеля таго, каб узбагаціць зямлю новымі харчамі, каторые спажыткаваны ужо з расьлінамі якіе на ей перш расьлі. Расьліны, каторые мы збіраем с поля маюць у сабе пажыўные розные часткі; жывёла зьеведаючы пашу, часць гэтых пажыўных частак, пры помачы сокоў жывата, перэтварае на кроў, косьці, але частку пажыўных рэчэй арганізм выкідае, як кал—гэта часткі не прыдатные для жывёлы. Кожны гаспадар можэ загадзя ведаць, ці гной які ён мае ад сваей жывёлы багаты пажыўнымі часткамі, ці не. Гэта залежыць ад гатунку пашы, каторай кормім сваю жывёлу: калі мы сваіх кароў кормім саломай, як гэта часта бывае у нас, то гной будзе дужа слабы, бо у саломі блізка што німа ніякіх пажыўных частак. Салома сваім складам дужа надобна да звычайнаго дрэва, і яна скаціне не дае ніякай пажывы, адно толькі напаўняе трыбух.

Але калі мы будзем скармліваць жывёлай такую пашу у каторай ёсць багата пажывы, як канюшына, сена, буракі, бульба і др. то і гной у нас будзе шмат крапчэйшы і жывёла будзе весялейшая. Але усё-ж такі крэпкаго гною ня будзем мець, хоць і найлепей кормячы жывёлу, калі гаспадар ня будзе як трэба даглядаць гною. Трэба каб кожны гаспадар даглядаў гной і ведаў як яго трэба даглядаць. Бывае, што рупны гаспадар зьбірае гной на надворку і на дарозе, а ня відзіць, або спакойна глядзіць, як жыжка з гною выцекае з ягонаго хлева у блізкую канаву, або нават і наўмысна адведзена у тую канаву самім гаспадаром. Вось і выходзіць, што сабраў на залатоўку, а згубіў на паўтара рубля. Бо жыжка з гною гэта і ёсць увесь мацунах гною, у ей знаходзяцца часткі азоту каторымі расьліна зара можэ карміцца, а у кале астаюцца часткі фосфорытные і паташовые, каторым трэба шмат часу палежаць у зямлі пакуль будуць прыгодны на корм расьлінам. Або відаць

часам, як у селян, на дзеньніках гной ляжыць у вадзе і вымываецца. Ажно глядзець на гэта няхочэцца, бо і што-ж гэны гаспадар вывозіць на поля, каторы дзяржыць гной у вадзе? Салому трухлявую - і нічога болей, бо вада вымыла усё што было пажыўнаго вада выпаласкала, ды ешчэ гаспадар спусьціў ваду тую канаўкай, каб можна было вывезьці гной. Гэткі гной гэта тое самае, што вывезьці у поле сухую салому, ды прыараць яе. Такі гаспадар, што спускае жыжку гнаёвую с хлявоў і дзяржыць гной на дзяньніку, сам сябе акрадае, сам сабе непрыяцель.

Лепей за ўсё пераховываецця гной у хлеві пад жывёлай, але у хлеві павіна быць дно такое, каторае не прапушчало-б у зямлю жыжкі з гною. Дык на гэта трэба, каб дно у хлевах было з гліны крэпка убітай, як ток; на берэгах вышэйшае а у сярэдзіне ніжэйшае с канаўкай у старану да мураванай ямы, ці хоць у капанай у зямлі бочкі. Гэтак сабраная жыжка з гною можэ прыгадзіцца да палеваньня гародніны, ці да кампосту, ці да палеваньня сухога гною.

Драбіны с каторых кормім жывёлу, павінны быць перэстаўляные, а гэта дзеля таго, што там, дзе стаіць жывёла гной утаптываецца і да яго не даходзіць наветрэ дык з гэткаго гною нічаго не марнуецца. Падсцілка павінна быць саўсім сухая і каротка парэзаная, каб магла як можна болей сабраць у сябе жыжкі з гною. Пасьля гной трэба часта раўняць, с пад задніх ног трэба падкідаць пад пярэдніе, каб усюды быў роўны, а пры кожным перакідываньню гною, трэба яго прысыпаць сухой, парахністай зямлёй, або ешчэ лепей сухім торфам, ці сухой балотнай зямлёй. Парахністая земля і торф маюць у сабе сілу затрымаць тые пажыўные для расьлін часткі, што як сморад расходзяцца у паветры, і задзержаць іх у сабе да таго часу, пакуль гэтые пажыўные часткі ня выцягнуць з іх расьліны сваімі карэньчыкамі.

Каб трымаць даўжэйшы час гной пад жывёлай трэба на гэта абшырных і высокіх хлявоў, вось тут гожэ прыпомніць усім тым, каторые маняцца будаваць хлявы, каб будавалі абшырные, а што найважнейшае высокіе хлявы, бо пры будаваньні вялікай рожніцы німа, ці пару вянцоў вышэй, ці ніжей будзе будынак.

Часта бывае, што гаспадар прымушэн выкідаць с хлявоў гной, восьжэ выкідаючы трэба пільнавацца, каб гной не лежаў пад сьнягом і каб быў добра убіты. Бо не ўтаптаны гной перэпаліваецца і з яго выветрываецца многа пажыўных частак, а гэтым самым гаспадару страта.

І. Б.

# Які звычайны і які найбольшы бывае ураджай.

З аднэй дзесяціны зьбіраюць у сярэдне—добрае лета.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пшаніцы | зерна | ад | 48 | пуд. | да | 72 | пудоў. |
| | саломы | ад | 105 | пуд. | да | 147 | пудоў. |
| Жыта | зерна | ад | 29 | пуд. | да | 62 | пудоў. |
| | саломы | ад | 105 | пуд. | да | 180 | пудоў. |
| Ячменя | зерна | ад | 45 | пуд. | да | 85 | пудоў. |
| | саломы | ад | 51 | пуд. | да | 78 | пудоў. |
| Аўса | зерна | ад | 52 | пуд. | да | 108 | пудоў. |
| | саломы | ад | 81 | пуд. | да | 196 | пудоў. |
| канюшыны чырвон. | сена | ад | 96 | пуд. | да | 225 | пудоў. |
| Бульбы— — — — | | ад | 350 | пуд. | да | 800 | пудоў. |

Меншые цыфры паказываюць ураджай з зямлі дрэннай, дрэнна выробленай, дрэнна загаспадарэнай. Большые цыфры паказываюць ураджай з зямлі добрай, але на каторай гаспадарка сшчэ не саўсім добра вядзецца.

А вось паглядзім які бывае ураджай у такое самае лета з зямлі добрай і добра загаспадарэнай, так, як вымагае цяперэшняя навука.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Пшаніцы | зерна | — — — — — | 163 | пуды. |
| | саломы | — — — — — | 300 | пудоў. |
| Жыта | зерна | — — — — — | 160 | пудоў. |
| | саломы | — — — — — | 330 | пудоў. |
| Ячменя | зерна | — — — — — | 125 | пудоў, |
| | саломы | — — — — — | 170 | пудоў. |
| Аўса | зерна | — — — — — | 173 | пуды. |
| | саломы | — — — — — | 300 | пудой. |
| канюшыны чырв. | сена | — — — — — — | 360 | пудоў. |
| Бульбы | | — — — — — — — — | 1.220 | пудоў. |

Гэткі ураджай *цяпер маюць гаспадары у каторых вядзецца*

*гаспадарка саусім так як трэба* і гэта не канечна на найлепшай зямлі. На добрай зямлі „найбольшы ураджай“ можна ведама хутчэй мець, чым на зямлі благой, але і на аднэй і на другой да найбольшаго ураджаю гаспадар дойдзе, калі толькі давядзе сваю зямлю да таго, што у ей будуць усе варункі патрэбные на тое, каб мець „найбольшы ураджай“. Ешчэ раз кажэм, што „найбольшы ураджай“ які паказаны на другой табліцы гэта не мана, гэткі ураджай можна мець с кожнай зямлі (калі ня шчыры пясок, ня клейкая гліна і не балота) абы толькі умела хадзіць каля яе.

---

## Аткорм сьвіньней.

Розные людзі розна гавораць аб аткармліваньні сьвіньней на прадажу: адны кажуць, што гэта аплачываецца і дае добры даход, другіе кажуць, што наадварот не аплачываецца. Як заўсёды, гэтак і тут праўда і там і тут. Калі мы будзем умела карміць, падбіраць на аткорм завод сьвіньней, то і аткармліваньне будзе аплачывацца і сьвіньні будуць вясьціся.

Калі-ж возьмем да аткорму штуку старую, або хворую, або нават і маладую штуку, але загаладаўшую у часе лета, а хоць часам бярэм да аткорму і добрую штуку, але дзяржым яе у брудзе, кормім не акуратна і не падхадзячым кормам то тады аткорм не аплачываецца. Не аплачываецца аткорм і тады калі гаспадар коміць лішне доўга „на таўстую саланіну“ — да саланіны гаспадар блізка што заўсёды дакладае.

Разгледзім якіе прычыны памагаюць да скораго, а гэтым самым карыснаго аткорму сьвіньней.

Перш за ўсё мае тут значэньне завод сьвіньней. Сьвіньні „простые“, тые, што маюць доўгі лыч, высокіе ногі, плоскіе жэбры круглы хрыбет, вялікіе клыкі—растуць і сыцеюць памалу. Гэткіх сьвіньней трэба дужа доўга аткармліваць, каб мець з іх саланіну. Англіцкіе сьвіньні, ужо шмат дзе і у нас разведзеные (маюць кароткіе ногі і лыч кароткі, жэбры выпуклые), гэта найпаплатнейшые да аткорму: яны скора растуць і сыцеюць. Праўда, што яны шмат дэлікатнейшые, за нашых, і вымагаюць большаго дагляду, але затое і карысць з іх іншая і мяса смачнейшае.

Другі варунак важны пры аткармліваньні, гэта узрост сьвіньні. Маладых 3—8 месячных заўсёды лепей аплачываецца аткармліваць, чым старых.

Заграніцай і у Рассі, дзе заведзены гаспадаркі на аткорм і прадажу сьвіньней гэтак робяць. Як толькі парасё адсадзяць ад маткі, пачынаюць яго ужо рыхтаваць на аткорм: не ганяюць на далёкую паству па полю, а толькі дзержаць каля хаты, кормяць да сыта, каб скора расьлі, гэтак да 6—9 месяцоў, а пасьля адсаджываюць у загарадку і кормяць.

Вельмі важная справа у аткармліваньні сьвіньней гэта— здароўе. Сьвіньні каторые хварэлі, нават будучы парасятамі, ніколі ужо ня будуць гэтак здатнымі на аткармліваньне, як саўсім здоровые; дзеля гэтаго ніколі на аткорм ня трэба купляць сьвіньней на кірмашах, але або самому на аткорм гадаваць парасят або купляць у суседзёў, пры карыце, каб бачыць, як яны ядуць.

Найлепшые на аткорм парасяты, каторые радзіліся у марцы, красавіку і кастрычніку; летніе і зімовые заўсёды бываюць на аткорм горшые. Адсаджэных парасят трэба да 3 месяцоў карміць 5 разоў у дзень, скіданым малаком з асыпкай і бульбай, а гэтак сама сырым, мачоным гарохам, бобам, або сушэным жытам дадаючы што раз больш канюшыннай, ці іншай мякіны і ахрапья. Гэтак кормленые парасяты гэта ужо кормнікі ад нараджэньня і пасьля 6—9 месяцоў іх трэба толькі падкарміць лепей праз 6—9 тыднеў, каб нарасла саланіна.

Найважнейшы варунак пры аткармліваньні сьвіньней-гэта чыстата, Як саму сьвінскую асобу, так і ўсю пасуду, трэба канечна мыць лёгкім лугам, найменш, раз на тыдзень, Чыстата гэта здароўе для кожнаго стварэньня, а ведама як сьвіньні лёгка западаюць на разные хваробы, вось чыстата, і бароніць іх ад усякіх хвароб. Дужа карысна бяліць сьвінскіе хлявы вапнай с попелам. А перш за ўсё трэба пільнаваць каб у сьвінскім хлеві было заўсёды суха, каб навоз не лежаў доўга, а што трэцьці дзень выкідаўся вон і каб мярлог зьменяць, што тыдзень: не насьцілаць на верх на стары, а выкінуўшы стары наслаць новай саломы, ці гарохавін.

Пашу каторую зужываюць сьвіньні можна раздзяліць на *бытавую* г. зн. каторая патрэбна, каб паддзержаць жыцьцё, і *прыростную*, каторая пабольшывае вагу і дае нам даход. З гэтаго выходзіць, што чым карацей і сытней будзем карміць сьвіньней, тым большая нам будзе карысць, бо менш бытавой пашы трэба будзе ім.

Вылічыць што да фунта пашу, як гэта цяпер вылічаюць для кароў, для сьвіньней нельга, але ведаючы пажыўнасць кожнай пашы можна вылічыць такую мешаніну, каб нічога не глумілося, пры гэтым аткармліваньне дзеляць на тры часы.

I час аткармліваньня гэта так званае, распіханьне. Карыстаючы с таго, што у гэтым часе сьвіньні могуць найбольш зьесці і абы якога корму, то у гэтым часе мы павінны старацца, каб на іх як можна больш нарастало мяса, дзеля гэтаго трэба даваць 3 разы у дзень мякіны, або ахрапья з асыпкай аўсяной, (або ячнай) 2 разы у дзень бульбы парэнай і тоўчэнай з асыпкай і памыі, забеленые малаком на піцьцё.

II час аткармліваньня. У гэтым часе памаленьку даём што раз менш мякіны, або зельля (ахрапья) а затое што раз болей бульбы і мукі, прычым добра на перамену даваць брукву, буракі, моркву, каб бульба не прыелася.

III час аткармліваньня. У гэтым часе мы стараемся каб хутчэй нарастала саланіна, дзеля гэтаго зьменшаем штораз бульбу, а даём больш мукі, семя льнянаго, канаплёў, гароху.

Карміць кормных сьвіньней трэба ня менш 5 разоў у дзень і то заўсёды у аднэй парэ. Зімой корм павінен быць цёплы. Карыта і вёдры с каторых кормяцца сьвіньні павінны быць што другі дзень выпарываны, каб не завялася кісьля. Корм трэба даваць асобна, а піцьцё асобна. Корм не павінен быць жыдкі але густы, як цеста. Калі-б кормная сьвіньня перэстала есьці, трэба перэгаладзіць яго, не даўшы які дзень есьці. Два разы на тыдзень можна даваць анцімоніі (*antimonium crudum*) каб падняць апэтыт, можна дадаваць час ад часу да корму вугалёў. Перэд аткормам трэба у сьвіньні агледзіць язык і павекі ці німа на іх чырвоных крупак (угроў). Угравата мяса шкоднае для здароўя людзей і дзеля гэтаго угравитых сьвіньней не варта аткармліваць. У канцы трэба сказаць што пры аткорме сьвіньней вялікае значэньне мае рупнасць гаспадыні, каторая калі будзе аткармліваць с толкам, паводле вышэй сказаных рад, напэўна дачэкаецца карысьці.

**Н. Р.**

# Колькі слоў аб гадоўлі гусей.

Дзе пазваляюць варункі: ёсць прыдатная паша і вада, там с карысьцю можна гадаваць на шырэйшую нагу гусей. Аднак і ў звычайных варунках, калі умела вясьці гадоўлю гусей, можна з іх мець німала карысьці. Найбольшые даходы дае гадоўля гусей тады, калі гадуем гусей вялікіх, заводных, каторые шмат болей важаць, як нашы звычайные гусі, бо чым больш гуся важыць тым больш з яе будзе мяса, а дзеля гэтаго і большую цану за яе можна узяць.

Нашы гусі зазвычай малые і вага іх не вялікая. Гусі заводные, як Эмдэнскіе, Тулюзскіе і інш даходзяць да 15 ф. жывой вагі, дык нічога дзіўнаго, што за гэткую гусь плацяць 3—4 руб. а за нашу звычайную — 1 руб, — 1 руб. 20 кап.

Дзеля таго што паруюцца гусі ужо у сьнежні, а ў студню месяцы, або лютым пачынаюць нясьціся, дзеля гэтаго у лістападзе трэба пастарацца добрых гусей на племя. Калі тые гусі каторые у вас ёсць не саўсім ужо дрэнные, то трэба с паміж іх выбраць найбольшых і найцяжэйшых на племя. А калі гусі саўсім дробные, то лепей іх прадаць, а на места іх купіць колькі штук вялікіх гусей на племя, Калі са всайго стада пакідаеце гусей на племя, то трэба ўсё-ж такі перэмяніць гусака, дастаўшы яго дзе з другога стада, само сабой, як можна большаго выбіраючы, а пры гэтым белага, бо за белых гусей даражэй плацяць. Зменяць гусака трэба дзеля таго, ш такто сама як у усіх дамовых жывёл, так і у гусей шкодна адбіваецца на разплод сваяцтва, бо добрые староны зьнікаюць а благіе

верх бяруць; гусі драбнеюць, слабеюць, робяцца хваравітымі.

Маладые гусі, адналеткі, не прыдатны на расплод, бо яйкі з маладых гусей найчасьцей бываюць баўтунамі, дзеля гэтаго на расплод найлепей адкладаць яйкі старых гусей, каторые ужо маюць больш двох гадоў, старэйшые гусі лепей выседжываюць. Найлепшы гусак 2—4 гадоў. На 3 да 5 гусей патрэбен адзін гусак. Гусі раскормленые не прыдатны на расплод.

Калі гуся пачынае нясьціся, а зносіць яна зазвычай што другі дзень яйко, то трэба заўсёды пакідаць у гнязьдзе толькі адно яйко. Калі гуся заседжываецца даўжэйшы час у гнязьдзе, ды пры гэтым выскубае сабе перья і высьцілае ім гняздо, гэто ўсё паказывае што яна хочэ выседжываць. Тады падкладаецца пад яе 10—12 яец на высадку. Падкладаць больш чым 12 яец нядобра, бо тады гуся іх не прыкрывае добра і бывае многа баўтуноў. Гуся сядзіц на яйках 30 дзён, пасьля чаго пачынаюць выклювацца піскленяты. Калі у адным часе трэба пасадзіць колькі гусей, то трэба так устроіць гнёзды, каб яны адна адну не бачылі, бо інначэй будуць пастаянна непакоіцца. Гусей каторые сідзяць на яйках трэба карміць зярном; ячмянём, аўсом; і трэба памятаць, каб гусі мелі заўсёды у волю чыстай вады да піцьця. Корм і ваду трэба ставіць не пры самым гнязьдзе, каб выйшоўшы з гнезда гуся крыху пакраталася, а то занадзее саўсім за час выседкі.

Калі ужо гусеняты выклююцца, то трэба іх пакінуць пры матцы на 24 гадзіны і ў гэтым часе гусенятам ня трэба ніякаго корму. Пасьля гэтаго часу трэба перэнясьці гусю з гусенятамі у цёплае і сухое мейсцо, калі надворье ешчэ сцюдзёнае і тут трэба прадзержаць іх які тыдзень, а ўжо пасьля гэтаго, калі пагода добрая можна іх выпусьціць надвор, адначэ спачатку толькі на кароткі час, а пасьля памаленьку што раз даўжэйшы. Пасьля двох тыднёў гусеняты могуць ужо быць даўжэй на дварэ, а нават і ісці на ваду, калі вада дзе блізка. Усё-ж такі пакуль гусеняты ня скінулі пуху, трэба іх пільнаваць ад сцюжы, дажджа, а нават і ад расы.

У першые дні кормяць гусенят гатаванымі ячнымі крупамі, да каторых дамешываюць дробна пасечэную крапіву і яйко варэнае на цьвёрда і гэтак сама дробна пасечэнае. Пасьля 3—4 дзён даваць трэба на корм гатаваные ячные крупы з пшанічнымі вотрынамі (отрубі) добра абпарэнымі, або і варэнымі. Пасьля 14 дзён можна да гэтаго корму дадаваць ужо і бульбы варэнай і таўчонай разам с крупамі. Калі гусеняты ходзяць на пашу, то німа наўды дадаваць ім зеляніны; яны самі сабе травіцы наскубуць. Пасьля 4 тыднёў можна даваць аўса, або ячменю мочэнаго. Калі гусеняты перэменяюць пух на перья; што зазвычай бывае у другім месяцы іхняго жыцьця, то у гэтым часе трэба іх лепей карміць, а пасьля ужо гусенят кормяць так сама, як і старых гусей. Да таго каб гусі „вяліся“ канечна патрэбна сьвежая, чыстая вада.

С. В.

# Затрыманьне мочу у коней.

Хвароба гэта здараецца часьцей у коней, як у кабыл. Хворы конь неспакойны, трапечыцца, аглядываецца на жывот, іншым разам качаецца, надымаецца каб аддаць моч. Затрыманьне мочу найчасьцей здараецца ад таго, што конь перэзябне, ад чаго шыйка мачавога пузыра сціскаецца, бывае і ад таго, калі конь доўга і шпарка бяжыць проці ветру, ды ешчэ часам ад таго што у шыйку пузыра уходзяць асобные мачавые камяшке. Лячыць трэба гэтак: паставіўшы каня на сухой падсцілцы у цёплай, шырокай праварыні, націраць жывот і ногі тэрпатынай, вехцямі саломы, пакуль добра не разагрэецца. Калі не паможэ, зара купіць у аптэцы зельля, што называецца „Adonis Vərnalis“, папарыць якіх $1^1/_2$ фунта і даць выпіць каню якіх зо дзьве кварты. Так сама добра даць „леватыву“ з летняго напарэнаго румянку. Напарыць с $1^1/_2$, або з 2 фунты. З вірглівым канём трымаць галаву у верх і падняць пярэднюю нагу.

Калі гэта усё не паможэ і конь ешчэ неспакойны—зара зьездзіць да аптэкі, узяць „катэтэр“. „Катэтэр“ гэта доўгая такая трубачка, на адным канцы проста адцятая — на другім мае гладзенькі касьцяны кончык. Цэлы „катэтэр“ трэба намазаць алівай, або калі німа, то хоць ня соленым маслам і гэтым касьцяным канцом усовываць каню у сярэдзіну, пакуль ня дойдзе да пузыра. Толькі рабіць гэта трэба асьцярожна, каб не скалечыць дзе у сярэдзіне. У вялікага каня блізка увесь катэтар схаваецца, у меньшага будзе выставаць на якіе $1^1/_2$ пядзі. Пачэкаўшы прышку конь моч аддасць. Катэтар у аптэцы будзе каштаваць 8—10 злотых, але аптэкар пазычыць на раз за якую саракоўку, або 2 злоты. Іншым разам, калі конь не надта цяжка хворы, памагае паставіць яго на авеччым гнаю. але найлепш адразу добра лячыць, бо гэта хвароба небаспечна,

**Г. І.**



Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу**. Друкарня „Зніч“ Вільня.